№ 20 (68)
Кастрычнік 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна"




# Несапраўдныя выбары

## Байкот выбараў у Беларусі адбыўся — па дадзеных незалежных назіральнікаў толькі каля 45 адсоткаў выбаршчыкаў прынялі ўдзел у галасаваньні

Яшчэ да пачатку галасаваньня ў міжнароднай супольнасьці былі ўсе падставы выбары 15 кастрычніка ў Палату прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь лічыць несапраўднымі, а абраных дэпутатаў і адпаведна "ньюпарламент" — нелегітымнымі. Бо занадта шмат відавочных парушэньняў правоў грамадзянаў на дэмакратычнае волевыяўленьне назіралася ў нашай краіне. Напрацягу апошніх шасьці гадоў — ад прыходу да ўлады А.Лукашэнкі — народ Беларусі паступова губляў дэмакратычныя правы і свабоды. А з набліжэньнем парламенцкіх выбараў ціск дыктатуры стаў яшчэ больш адчувальным.

Дзеля правядзеньня законных, роўных выбараў у нашай краіне міжнародная супольнасьць (і ў першую чаргу АБСЕ) прыклала, пачынаючы з мінулага году, нямала намаганьняў. Аднак улады ня выканалі ніводнае з патрабаваньняў, вылучаных да іх на трэцяй Тэхнічнай канферэнцыі АБСЕ, што адбылася 30 жніўня ў Вене. Апазіцыя так і не атрымала выхаду да СМІ, лёс зьніклых грамадзянаў так і застаўся невядомым, перасьлед палітычных дзеячаў не перапынены, парламент не атрымаў ніякіх паўнамоцтваў... У рэжыму Лукашэнкі быў шанец, правёўшы ў краіне

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

*16 кастрычніка* парламенцкая "тройка" зрабіла высновы пра парламенцкія выбары 15 кастрычніка 2000г.: "У канчатковым выніку, улады Беларусі не выкарысталі мажлівасьці, якая зьявілася ў выніку правядзеньня выбараў, каб дабіцца задавальняючага прагрэсу. Парламенцкая "тройка" выказвае шкадаваньне аб тым, што ўлады Беларусі не падтрымалі імкненьня значнай часткі насельніцтва краіны да дэмакратычных пераўтварэньняў".

*16 кастрычніка* ў Мінску ў сядзібе БНФ "Адраджэньне" адбылася прэс-канферэнцыя, прысьвечаная вынікам першага туру выбараў у Палату прадстаўнікоў. Старшыня БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка канстатаваў, што "байкот адбыўся" — у Мінску, Пінску, Баранавічах, Магілёве, Маладэчне – выбары не адбыліся. Па словах В.Вячоркі, "У Гродзенскай вобласьці – беспрэцэдэнтны ўціск напярэдадні выбараў. Папярэдняе галасаваньне там дало 20 адсоткаў — за кошт рабочых і студэнтаў, якія жывуць у інтэрнатах, вайскоўцаў, пацыентаў бальніц. Папярэдняе галасаваньне – злачынства ўладаў, якія не давалі людзям рабіць выбар: ісьці галасаваць ці не. Прававым чынам Палата прадстаўнікоў не была сфармаваная, цяпер Лукашэнку застаецца адно – зноў прызначыць Палату". Старшыня Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька сказаў: "Мы цалкам задаволеныя кампаніяй актыўнага байкоту. Але мы ня ставім кропку, працягваем правядзеньне пікетаў у Мінску і рэгіёнах да 29 кастрычніка (другога туру выбараў)". Старшыня ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі распавёў пра асноўныя тэндэнцыі парушэньня заканадаўства падчас выбараў.

(Працяг на стар. 6)

# Пераадолець страх...

Дзяржаву трэба паважаць, а не баяцца. Улада, якая абапіраецца на страх, няўстойлівая і нестабільная і рана ці позна рухне.

Страх выгодны для рэжыму — перапалоханымі людзьмі лягчэй кіраваць. Страх паралізуе мараль, паралізуе ініцыятыву — лепшыя праявы чалавечай асобы.

Але ёсьць людзі, якія могуць перамагчы страх. Адзін з іх — пенсіянер Уладзімір Кішкурна. Ён ведае пра гора, што нясе дыктатарскі рэжым людзям, не па кніжках — два яго ныя дзядзькі загінулі і знайшлі вечны прытулак у Курапатах — месцы масавых растрэлаў падчас сталінскіх рэпрэсіяў. Уладзімір Кішкурна быў адным з тых, хто ўстанаўліваў у Курапатах крыжы памяці. А з верасьня 2000 г. Уладзімір Кішкурна узяў самы непасрэдны ўдзел у кампаніі актыўнага байкоту лукашэнкаўскіх выбараў — раздаваў на вуліцах Мінску незалежную прэсу, прымаў удзел у сустрэчах з выбаршчыкамі, зьбіраў подпісы за выкананьне чатырох умоваў АБСЕ.

Уладзімір Кішкурна расказвае :

"Мы ладзілі па тры сустрэчы з выбаршчыкамі на дзень: зранку, у абед і ўвечары. Людзі рэагавалі на нас нармальна, дзякавалі, апрача зусім хворых пенсіянераў, якім ужо ніякія лекі не дапамогуць. Пасьля таго, як выбары правалiлiся людзi яшчэ лепш на нас сталi рэагаваць... Колькі разоў мяне затрымлівалі? Ня ведаю, я не лічыў. Я жартаваў, калі казаў "іду на рэкорд". Самы значны "рэкорд" — тры арышты за адзін дзень. Супрацоўнікі міліцыі напачатку кампаніі байкоту ставіліся да нас вельмі агрэсіўна, а зараз, мне здаецца, яны сталі ставіцца з разуменьнем, але паціскаюць плячыма і паказваюць пальцам угару. Калі мяне затрымлівалі, я часам езьдзіў з імі ў аддзяленьне на сваёй машыне, на якой прывозіў газеты. Можна і на міліцэйскай машыне ехаць, але тады трэба доўга вяртацца на грамадзкім транспарце. А так я адразу пасьля "мянтоўкі" еду на другі аб'ект нашага распаўсюджаньня. А што я кажу тым, хто мяне затрымлівае? Я ім кажу ўсю праўду, кажу тое, у чым я перакананы — што трэба мяняць гэтую ўладу, бо жыцьцё мы пры ёй ужо не палепшым, мы маем досьвед васьмідзесяці гадоў кіраваньня бальшавікоў. Я паказваю міліцыянтам законы — і Выбарчы і Адміністратыўны Кодэксы: "Вы хлопцы чытайце". Яны чытаюць, а пасьля падымаюць іншы палец ўгару і кажуць: "Адтуль загад такі!" Часьцей за ўсё хутка адпускалі, вярталі газеты, бралі сабе некалькі асобнікаў пачытаць. Самае доўгае затрыманьне ў нас было каля трох гадзінаў, а самае прыкрае 25 кастрычніка каля ГУМа. У той дзень мы раздавалі сьпецвыпуск газеты "Наша Свабода". А ўжо зьявіўся закон (новая рэдакцыя арт.167. 3 КаАП, якая не прадугледжвае адказнасьці за заклікі да байкоту), які Лукашэнка тры месяцы хаваў пад сукном. Стаю я каля ГУМу, раздаю газеты, размаўляю з людзьмі, падыходзяць да мяне два з аховы прэзідэнта ў цывільным адзеньні, п'яныя, паказваюць свае пасьведчаньні, кажуць: "Пойдзеш з намі!" Я адказваю: "Нікуды з вамі не пайду, я дзейнічаю на падставе закону. А вы – бандыты, ідзіце ад мяне, калі ласка, інакш я буду клікаць міліцыю!" Яны хапаюць мяне пад рукі. Я сам не пайшоў, яны мяне несьлі, як калісьці Шчукіна. Гэта я "метад Шчукіна" выкарыстаў. Яны мяне цягнулі ад ГУМу да "Макдональдса" праз падземны пераход. Па шляху я вельмі эмацыйна апеляваў да грамадзянаў (пару чалавек спрабавалі мне дапамагчы). Я крычаў: "Людзі, бараніце свабодную прэсу! Бараніце свае правы! Глядзіце, як цягнуць вольнага чалавека!" Каля нас пачаў зьбірацца натоўп. Падыйшлі супрацоўнікі міліцыі ў форме і сталі ветліва прасіць не наладжваць мітынгу. Я кажу: "Як гэта? Што гэта за людзі на мяне напалі? Хлопцы, што вы робіце, як вам не сорамна!" Яны адказваюць: "Гэта нашыя супрацоўнікі!" Самае галоўнае, я даў ім закон: "Пачытайце, калі ня ведаеце!" Адзін з гэтых п'яных у цывільным выхапіў у мяне паперы, схаваў у кішэню і не аддаў. Я патрабаваў, каб міліцыянеры адабралі ў яго тэкст закону, а яны адказваюць: "Мы ня маем права!" Так "цывільныя" тэкст закону і зьвезьлі. Я думаю, што можа гэта на карысьць: "Няхай вывучаюць законы".



Уладзімір КІШКУРНА.

Страх як пачуцьцё выкарыстоўваецца ўладай. Бо для ўлады важна з аднаго боку — прымусіць людзей, каб яны нешта рабілі, а з другога боку — каб нечага не рабілі. У абодвух выпадках можна выкарыстоўваць страх. На пэўным прамежку часу гэта садзейнічае сіле ўлады. Але ж страх — пачуцьцё непрыемнае. Таму людзі імкнуцца пазбавіцца не толькі ад гэтага эмацыйнага стану, але і ад тых крыніцаў, прычынаў і носьбітаў страху. Раней ці пазьней страх робіцца невыносным і перарастае ў нянавісьць. Там, дзе заканчваецца страх і цярпеньне, узьнікае нянавісьць, і пачынаюцца рэвалюцыі...

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

# Несапраўдныя выбары

*(Пачатак на стар.1)*

дэмакратычныя выбары, паказаць сьвету сваё жаданьне вярнуцца ў сям'ю еўрапейскіх дзяржаваў. Аднак ён гэты шанц не скарыстаў.

Беларуская аб'яднаная апазіцыя аб'явіла байкот выбараў. Байкот падтрымалі буйнейшыя палітычныя партыі краіны. Тыя ж, хто вырашыў пагуляць у лукашэнкаўскую дэмакратыю, у хуткім часе мелі магчымасьць пераканацца, што ўлады іх элементарна скарыстоўваюць у сваіх мэтах. І месцаў нават у бяспраўным парламенце ім ня бачыць як сваіх вушэй. Адсеў незалежных кандыдатаў — жорсткі і беззаконны — пачаўся ўжо на першых этапах выбарчай кампаніі. Наш бюлетэнь пісаў пра парушэньні заканадаўства пры зборы подпісаў, пры рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты — ды практычна на кожным этапе. Кандыдаты ў дэпутаты нават ад лаяльных рэжыму партыяў — такіх як ліберальна-дэмакратычная і дзьве камуністычныя — мелі мажлівасьць пераканацца, што месцы ў "парламенце" даўно падзеленыя, іх там не чакаюць, і адзіна правільным адказам А.Лукашэнку быў байкот выбараў.

І вось — уласна выбары. Пачаліся яны, як заўсёды пры Лукашэнку, датэрмінова. Гэтым разам уладам удалося прымусіць прагаласаваць такім чынам каля 20(!) адсоткаў грамадзянаў. Небывалы ўціск быў аказаны на студэнтаў, што жывуць у інтэрнатах. У асобных ВНУ колькасьць прагаласаваўшых датэрмінова склала да 95(!) адсоткаў. Датэрмінова галасавалі калгасьнікі, рабочыя заводаў, зьнятыя з працы сваім кіраўніцтвам... І гэта дало падставы А.Лукашэнку сьцьвярджаць, што на выбары прыйдзе ня менш як 70 адсоткаў беларусаў.

Аднак — не! Ранак 15 кастрычніка паказаў, што грамадзяне масава ігнаруюць выбары ў парламент, які пасьпеў атрымаць назву "палатка" альбо "палата №2". І пасьля 14 гадзінаў, каб хоць неяк падняць працэнт прагаласаваўшых, улады пайшлі на адкрытыя парушэньні закону. Каб перакрыць лічбу ў 50 адсоткаў прагаласаваўшых выбарчыя камісіі скарачалі колькасьць выбаршчыкаў на ўчастках, хадзілі па кватэрах са скрынямі, дазвалялі галасаваць па любым "дакуменце", зьнішчалі нескарыстаныя бюлетэні, на выбаршчыкаў аказваўся псіхалагічны ціск як пры папярэднім галасаваньні, так і ў дзень галасаваньня — 15 кастрычніка... І да раніцы наступнага дня не было, вядома, ці ўдасца шляхам падтасовак "выйсьці" на патрэбную Лукашэнку лічбу прагаласаваўшых...

Так, байкот адбыўся. Але наперадзе новыя выбары — прэзідэнцкія. А там лозунг апазіцыі, пэўна ж, будзе іншым: "Усе на выбары!".

**Андрэй НАЛІВА.**

# Галоўнае — вынік?

**Выбарчыя камісіі на выбарах 15 кастрычніка не спыняліся ні перад якімі парушэньнямі заканадаўства дзеля забесьпячэньня патрэбнай колькасьці прагаласаваўшых.**




Фота "ПиВ"

Выбары 15 кастрычніка ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі прайшлі са значнымі парушэньнямі выбарчага заканадаўства.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" вылучыў 180 назіральнікаў на выбарчыя ўчасткі ў Мінску і іншых гарадах Беларусі. Назіральнікі зафіксавалі факты парушэньняў выбарчага заканадаўства. Па фактах парушэньняў складзеныя акты.

Прааналізаваўшы тыповыя факты парушэньняў Выбарчага кодэксу, зафіксаваныя назіральнікамі, можна вылучыць асноўныя тэндэнцыі парушэньняў выбарчага заканадаўства, характэрныя для выбараў 15 кастрычніка:

**1. *Зьніжэньне колькасьці зарэгістраваных выбаршчыкаў (пачалося з 14 гадзінаў).***

На ўчастку 251 (Паўднёва-заходняя выбарчая акруга) — на 8 раніцы зарэгістравана 2985 выбаршчыкаў, а перад падлікам галасоў стала 2920). На ўчастку 501 зранку было 2236 выбаршчыкаў, перад падлікам галасоў — 1813). Гэта рабілася з мэтай павышэньня працэнту яўкі.

**2. *Хаджэньне сяброў выбарчых камісіяў па кватэрах з выбарчымі скрынямі.***

На 100-м мінскім выбарчым участку сябры камісіі хадзілі па кватэрах і агітавалі ісьці на выбарчыя ўчасткі. На 195-м участку старшыня камісіі В.Клышэўскі прызнаў, што людзі не прасілі прыходзіць да іх, многія, да каго прыходзілі са скрынямі, ужо прагаласавалі, але не былі выкрэсьленыя з агульнага сьпісу.

ПЦ "Вясна" таксама стала вядома, што на вул. Асаналіева, у мікрараёне Шабаны, на вул. Кнорына сябры камісіяў хадзілі па кватэрах з выбарчымі скрынямі і прапаноўвалі галасаваць дома. Між тым у Выбарчым кодэксе сказана, што галасаваньне па "месцы знаходжаньня асобы" можа адбывацца выключна па "просьбе выбаршчыкаў, выказанай у вуснай ці пісьмовай форме". Але ж людзі са скрынямі прыходзілі да тых людзей, якія не выказвалі жаданьня галасаваць і не падавалі заявак ні ў вуснай, ні ў пісьмовай форме.

**3. *Галасаваньне па студэнцкіх білетах і заліковых кніжках.***

У першай палове дня з 497-га мінскага выбарчага участку Каліноўскай акругі (ад назіральніка ПЦ "Вясна" Станіслава Карашчанкі паступіў сігнал, што студэнты галасуюць па студэнцкіх білетах (у той час як арт. 52 Выбарчага кодэксу гаворыць, што бюлетэнь для галасаваньня выдаецца "пасьля прад'яўленьня пашпарту альбо замяняючага яго пасьведчаньня асобы"). У Выбарчым кодэксе не агаворана, ці зьяўляецца такім пасьведчаньнем студэнцкі білет (там не адзначанае грамадзянства і месца прапіскі). Юрыст ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч патэлефанаваў у Цэнтральную выбарчую камісію, дзе сказалі, што па студэнцкім білеце галасаваць нельга, бо там не адзначанае грамадзянства. Але на 497 выбарчым участку працягвалі настойваць на тым, што з Цэнтральнай выбарчай камісіі прыйшло вуснае распараджэньне – дазволіць галасаваньне па студэнцкіх білетах. В.Стэфановіч патэлефанаваў яшчэ раз у ЦВК, трубку ўзяў Яўген Аўдзееў, які адназначна заявіў: "Па студэнцкім білеце галасаваць дазволена, можаце на мяне спасылацца". Такім чынам, ПЦ "Вясна" атрымаў з ЦВК два супрацьлеглыя адказы, і для ўдакладненьня пытаньня супрацоўнікі патэлефанавалі намесьніку старшыні ЦВК сп.І.Ліхачу. Сп. І. Ліхач сказаў, што 14 кастрычніка зьбіра-лася паседжаньне ЦВК, і па шматлікіх просьбах кіраўніцтва навучальных установаў вырашылі дазволіць галасаваньне па студэнцкіх білетах. Варта адзначыць, што ў канцы дня на ўчастку 497 галасавалі ня толькі па студэнцкіх білетах, але па і па заліковых кніжках.

**4. *Псіхалагічны ціск на выбаршчыкаў у дзень галасаваньня.***

На 529 выбарчым участку ў Мінску выхавацель інтэрнату Валянціна Маскалёва агітавала за ўдзел у выбарах. На пытаньне назіральніка: "Чаму вы гэта робіце?", адказала: "А што мне застаецца, калі загадала начальства". Гэты факт сьведчыць пра ціск, які на розных узроўнях аказвалі ўлады на грамадзянаў у дзень выбараў.

Аляксандр Міхайлавіч Заніманец, які праходзіць лячэньне ў Навуковадасьледчым інстытуце туберкулёзу, паведаміў, што яго папярэдзілі: калі ён не пойдзе галасаваць у нядзелю, то ў панядзелак яго выпішуць з бальніцы.

**5. *Зьнішчэньне (без падліку) нявыкарыстаных бюлетэняў.***

На 195-м мінскім участку Есенінскай акругі (старшыня Веналі Клышэўскі) пры падліку галасоў усе нявыкарыстаныя бюлетэні былі парваныя і выкінутыя без падліку. Колькасьць нявыкарыстаных бюлетэняў цяпер немагчыма падлічыць, і гэта дае шырокія магчымасьці для фальсіфікацыі вынікаў, бо нявядомая колькасьць прагаласаваўшых. Гэтым было груба парушанае патрабаваньне арт. 55 Выбарчага кодэксу РБ, які гаворыць: "Перад ускрыцьцём скрыняў для галасаваньня ўсе нявыкарыстаныя бюлетэні падлічваюцца і пагашаюцца, складаюцца ў пакункі і апячатваюцца выбарчай камісіяй. На пакунках надпісваюцца назва і нумар участку, колькасьць нявыкарыстаных бюлетэняў".

**6. *Удзел супрацоўнікаў выканкамаў у падліку галасоў.***

Паведамляе назіральнік Сяргей П'яных: "15 кастрычніка гг. я назіраў за выбарамі дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў РБ па Каліноўскай акрузе (старшыня камісіі А.Валевіч). На паседжаньне акружной камісіі мяне дапусьцілі ў 23.00. За час маёй прысутнасьці на паседжаньні старшыні ўчастковых камісіяў, у якіх знаходзіліся якія-небудзь заўвагі па пратаколах галасаваньня, перапісвалі пратаколы, не выходзячы з будынку выканкаму (на працягу 15-20 хвілінаў). Гэта былі 512 і 497 участкі і некаторыя іншыя. У 23.30 на паседжаньне прыйшла Л.Старасьціна (супрацоўнік выканкаму) і давала парады па выпраўленьні памылак у пратаколах. Яна таксама запрасіла супрацоўнікаў выканкаму прыняць удзел у падліку галасоў. У 23.30 на паседжаньне прыйшлі два супрацоўнікі выканкаму (адна з іх – Абакунчык) і сталі падводзіць падлікі галасоў, беручы пратаколы ў старшыняў участковых камісіяў. Мною быў папярэджаны старшыня камісіі А.Валевіч, які адказаў, што гэта тэхнічныя супрацоўнікі камісіі, але прозьвішчаў іх ён ня ведае. Праз паўгадзіны гэтыя супрацоўнікі выканкаму перайшлі ў іншы кабінет, і сябар камісіі Н.Анасава стала накіроўваць старшыняў участковых камісіяў да іх. Камісію 526 участку пры мне накіравалі "перабіваць" вынікі выбараў у кабінет да Л.Старасьцінай".

**7. *Псіхалагічны ціск на студэнтаў падчас папярэдняга галасаваньня.***

Студэнтка Мінскага універсітэту культуры паведаміла: "13-га кастрычніка да нас на лекцыю прыйшла намесьнік дэкана Галіна Дуркіна і сказала: "Хто не прагаласаваў, хай ня скардзяцца, што ў іх будуць праблемы. Калі вам заплацілі за байкот, то праблемы ў вас будуць». Яна папрасіла ўстаць тых, хто жыве ў інтэрнаце і не прагаласаваў учора. Такіх было два чалавекі, яны разам з Галінай Дуркінай пайшлі на ўчастак 176 на папярэдняе галасаваньне".

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# Фарс? Не — звычайная камедыя

### Пятніца, 13-е...

Асобныя выбарчыя ўчасткі – як кавалачкі люстэрка, што кожны са свайго боку адлюстроўваюць агульную карціну выбараў. Першы ўчастак я вырашыла наведаць "у пятніцу, 13-га". Супадзеньне даты з назвай вядомага фільму жахаў можна лічыць цалкам выпадковым – пабачанае пакуль яшчэ не нагадвала нават драмы.

Участак месьціўся ў памяшканьні лінгвістычнага унівэрсітэту. Аказалася, што галасаваньне тут ужо тры дні як ішло поўным ходам. За гэтыя тры дні, як мне паведамілі ў акружной выбарчай камісіі, галасы за сваіх кандыдатаў ужо аддалі 74 чалавекі з 450. Дарэчы, 44 адсоткі выбаршчыкаў ад агульнага сьпісу ўчастку – людзі пенсійнага ўзросту.

Назіральнікаў на ўчастку няма, ды і з сяброў камісіі заходзіць толькі старшыня ў вайсковай форме – яго клічуць адмыслова для гутаркі з прэсаю. Як пацьвердзілася потым, шараговыя сябры выбарчых камісіяў пабойваюцца браць на сябе адказнасьць за "выдачу" журналістам інфармацыі. Нягледзячы на разьмяшчэньне ўчастка ва унівэрсітэце, аніводнага галасуючага студэнта падчас візіту ў пятніцу я ня бачыла.

Тым часам у інтэрнатах унівэрсітэту адбываўся нейкі, прабачце за лексіку, шмон. Хлопцы, што выпадкова зайшлі ў госьці да сваіх знаёмых студэнтаў, ледзь не былі выгнаныя на ўчасткі галасаваць датэрмінова. Камэнданты інтэрнатаў хадзілі ды выганялі ўсіх з пакояў па загадзе нейкага начальства. Але пра гэта мне распавялі трохі пазьней.

### Статкевічская акруга імя Каліноўскага

Самы нацыянальна сьвядомы кандыдат у дэпутаты нашага дзіўнага парламенту з "палоннымі" паўнамоцтвамі – старшыня БСДП "Народная Грамада" Мікола Статкевіч. Таму было цяжка не наведаць Каліноўскую акругу N107 Мінску, па якой ён балатаваўся.

Пры нашым з'яўленьні на выбарчым участку №498 сябры выбарчай камісіі прынялі нас за студэнтаў, што прыйшлі галасаваць. Не пытаючыся пра дакументы, адразу пацікавіліся, з якога мы інтэрнату БАТУ (сам участак месьціўся ў галоўным корпусе Беларускага аграрна-тэхнічнага унівэрсітэту). Але калі даведаліся, што ўчастак наведалі прадстаўнікі прэсы, крыху насьцярожыліся і параілі пачакаць старшыню камісіі.

На 17 гадзінаў 15 кастрычніка на гэтым участку прагаласавалі 850 выбаршчыкаў з 1976, альбо, паводле падлікаў камісіі, 43 адсоткі. Большасьць прагаласаваўшых зрабіла гэта, аднак, датэрмінова – 26 адсоткаў. Я так і не пачула ад старшыні сп. Філяева, якую дакладна частку з іх складаюць студэнты БАТУ з тутэйшых інтэрнатаў: спачатку ён казаў, што датэрмінова аддавалі свае галасы кандыдатам амаль адны студэнты, потым выправіўся, што гэта ня так... Нам тлумачаць, што многія студэнты менавіта на гэтыя выходныя вырашылі зьехаць у правінцыю да сваіх бацькоў – таму і масава пайшлі на ўчасткі раней тэрміну. Чацьвёра назіральнікаў участку паводзяць сябе досыць актыўна. Яны прадстаўляюць ПЦ "Вясна", Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў, Беларускі жаночы інфармацыйна-каардынацыйны цэнтр і працоўны калектыў аграрнага унівэрсітэта. Назіральнікі занепакоеныя галасаваньнем студэнтаў не па пашпартах, як таго патрабуе закон, а па студэнцкіх білетах. Акрамя таго, са сьпісаў выбаршчыкаў дзіўным чынам прападаюць некаторыя імёны – да 5 гадзінаў вечара нядзелі давялося скласьці дадатковы сьпіс з 69 чалавек, якія прыйшлі прагаласаваць. Прычыны гэткай зьявы ніяк ня могуць растлумачыць сябры выбарчай камісіі. Затое лёгка знаходзіцца адказ на пытаньне пра выкарыстаньне іншых дакументаў замест пашпартоў: аказваецца, многія студэнты здалі свае пашпарты на прапіску ў інтэрнатах ды так і не пасьпелі прапісацца. Прычым – ня толькі першакурснікі, але і старэйшыя яны перасяляюцца з аднаго інтэрнату БАТУ у другі...



*Адна з акцыяў у межах байкоту выбараў — "сабачае галасаваньне".*

### "Дзікі Захад" Міхаіла Чыгіра

У Заходнюю выбарчую акругу Мінску нумар 102 мы дабраліся, калі ўжо сьцямнела. Тут балатуецца былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. Шукаем які-небудзь выбарчы ўчастак у мікрараёне "Захад-3". На пытаньні пра знаходжаньне ўчастка мінакі чамусьці адказваюць так: "А халера яго ведае, дзе. Здаецца, там недзе ў дварах школа была".

У цёмных дварах гэтага блізкага захаду можна вельмі проста зваліцца з лесьвіцы. Па кутах на лаўках выбаршчыкі культурна адзначаюць выбары. Абыходзім лесьвіцу і спускаемся ў нізіну. Сапраўды, у гэтым катлаване стаіць будынак школы. На вуліцы тут жа няма ліхтароў. Тут разьмешчаныя ўчасткі 308 і 309 Заходняй акругі.

На ганку сустракаем са-

# Колькасьць дарослага насельніцтва Мінску ў дзень выбараў была зьменшаная на 20-30 адсоткаў...

### Расповяд шараговага сябра ўчастковай выбарчай камісіі

Я – шараговы сябра ўчастковай выбарчай камісіі ў Першамайскім раёне г.Мінску. На гэтай пасадзе ўжо некалькі гадоў. У мяне шмат разоў пыталіся, якія існуюць тэхналогіі падтасоўкі вынікаў галасаваньня. Я не магла адказаць, таму што нашая камісія працавала заўсёды чыста. Я была ўпэўненая ў гэтым. Цяпер, на жаль, ведаю. А робіцца ўсё вельмі проста і цынічна.

Мне не хацелася б называць нашыя каардынаты і прозьвішчы людзей, з якімі я даўно працую і добра да іх стаўлюся. Тым больш, што тое, што адбылося з нашай камісіяй, мяркуючы па ўсім, тыпова для ўсіх выбарчых камісіяў. Наш участак ніколі не вызначаўся вялікай актыўнасьцю выбаршчыкаў. А на гэты раз ужо да поўдня было зразумела, што выбары на ўчастку не адбыліся. Хаджэньне са скрынямі па кватэрах не дапамагло. Людзі галасаваць адмаўляліся. Кіраўнікі камісіяў нерваваліся. Нам было вядома, што дырэктара нашай установы выклікалі ў Адміністрацыю раёну, дзе папярэдзілі пра адказнасьць за вынікі выбараў на ўчастку. Падкрэсьліваю, кіраўнікі ўстановаў былі абавязаныя адказваць перад Адміністрацыяй не за добрасумленную працу падпарадкаваных ім людзей, а за воленыяўленьне прыкладна трох тысяч зусім незнаёмых грамадзянаў. У якім становішчы апынуліся ў гэтай сітуацыі старшыня і сакратар камісіі? Да васьмі гадзінаў вечару на нашым участку прагаласавалі прыкладана 30 адсоткаў выбаршчыкаў. І калі камісіі займаліся апрацоўкай бюлетэненяў, вынятых са скрыняў (тут усё было сумленна), некалькі чалавек на чале са старшынёй і сакратаром працавалі са сьпісамі выбаршчыкаў. Падкрэсьліваю, усё адбывалася пасьля таго, як участак быў зачынены для галасаваньня.

---

*Аўтар папрасіла не паведамляць яе прозьвішча грамадзкасьці.*

 

№20(68) БАЙКОТ-2000
5 ПРАВА НА ВОЛЮ Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна"

мога Міхаіла Чыгіра, які, падаецца, выглядае засмучаным. Праз нейкі час, пагутарыўшы з тутэйшымі назіральнікамі, пачынаем разумець прычыну ня дужа добрага настрою экс-прэм'ера. Парушэньняў і ў ягонай акрузе нямала. (Гл. заяву М.Чыгіра аб адмове ва ўдзеле ў выбарах на стар.7).

### *Узор замежнага назіральніка*

Улады кажуць пра прыезд у Беларусь паўнавартасных замежных назіральнікаў. Мне не шанцуе нешта – дзе ні была, за дзень ніводзін з іх не патрапіўся...

Але за пяць хвілінаў да канца галасаваньня – пашэнціла. На ўчастак нумар 309 акругі нумар 102 прыехалі дэпутаты армянскага парламенту. Іх трое, яшчэ адзін чалавек – прадстаўнік Арменіі ў апараце СНД. Дэлегацыю суправаджаў мажны, даволі грознага выгляду мужчына. На жаль, не ўдалося высьветліць, якую дзяржаўную структуру Беларусі ён прадстаўляў.

Паразмаўляць з армянскімі назіральнікамі аказалася праблематычным, бо яны доўга гутарылі з дзядулем-ветэранам вайны. Толькі адзін госьць з сонечнай Арменіі распытваў беларускіх назіральнікаў падрабязна пра выбары, астатнія задалі ім па адным пытаньні, з якіх было бачна, што госьці нічога ня цямяць у сітуацыі, што склалася ў Беларусі. Урэшце да мяне падышоў адзін з армянскіх гасьцей і пагадзіўся даць інтэрв'ю. Я не адразу прыкмеціла водар каньяку, які разьліваўся ад замежнага назіральніка.

Ушэ Маўсесян заўважыў, што не ўваходзіць ні ў адну партыю Арменіі і ні ў адну фракцыю ў яе парламенце. З 8 гадзін раіцы 15 кастрычніка да моманту нашай сустрэчы амаль у 20 гадзінаў госьці з Арменіі пасьпелі, па ягоных словах, наведаць 12 выбарчых участкаў.

— Як вам бачыцца збоку рашэньне некаторых палітычных партыяў байкатаваць гэтыя выбары?

— Гэта ўплыў Захаду, які ва ўсё ўмешваецца. Гэта ўсім ясна. Гэта таксама патрэбна. Гэта дапамагае. Больш народ бачыць, больш паразумнее. А Беларусь – прынамсі, адзіная ў былым СНД, хто захаваў сваю эканоміку. Можа быць, тут і ёсьць нейкая дыктатура, як кажуць, але мы яе падтрымалі – яны захавалі сваю эканоміку. Арменія зайздросьціць Беларусі...

Відавочна, ён прыехаў у Беларусь з "захаванай эканомікай" папіць каньяку з яе гаспадарамі. Якія выбары – такія і назіральнікі...

Што да мяне самой, то 15 кастрычніка я і блізка не пад'язджала ў бок раёну, дзе прапісаная і мушу аддаваць голас. Па-першае, я ўпэўненая, што выбіраць на маім участку няма з каго. Па-другое, улетку 1994-га я ўжо прагаласавала супраць усіх (камендантка інтэрнату БДУ вельмі сьлёзна маліла зьявіцца, бо яе выганяць з працы). І што? Адзін з гэтых "усіх" сёмы год атручвае жыцьцё мне самой, маім родным і сябрам, і яшчэ мільёнам маіх суайчыньнікаў! Болей гэткай магчымасьці ўладзе я не прадастаўлю ніколі.

**Тацяна СЬНІТКО.**

---

Ніякага абмеркаваньня не было, і я абсалютна выпадкова ўбачыла, што адбываецца. Насупраць выпадкова выбраных прозьвішчаў людзей, якія не прыйшлі на выбары, рабіўся запіс "выбыў". Такіх раптам зьнікнуўшых невядома куды і калі, на нашым участку аказалася 600 (!) чалавек. Адпаведна, у протаколе колькасьць людзей ў сьпісах зьменшылася на 600.

Атрымліваецца, што калі па пратаколах камісій падлічыць колькасьць патэнцыйных выбаршчыкаў Мінску, то можа атрымацца, што даросла насельніцтва ў горадзе зьменшылася на 20-30 адсоткаў. Падтасоўка такога маштабу дазволіла павялічыць працэнт прагаласаваўшых на нашым участку на 9 адсоткаў. Але выбары ў нас усё ж не адбыліся. Самае сумнае, на мой погляд, што пакуль выбраныя фабрыкавалі пратакол, усе астатнія сябры камісіі, а сярод нас было шмат маладых, цярпліва, некаторыя з апушчанымі вачыма, чакалі. А цягнулася гэта паўтары гадзіны. І ніхто не абурауся. І усе, апрача двух чалавек, падпісалі гэты фальшывы дакумент.

Мне выпадкова давялося пагаварыць з такой жа шараговай удзельніцай выбарчай іншай камісіі. На пытаньне, як у іх прайшлі выбары, яна адказала, што ўсё нармальна. "І не выкідалі людзей са сьпісаў?" "А, гэта, – адказала яна, — было, бо інакш выбары не адбыліся б. А пасьля зноў вылучаць кандыдатаў? А навошта?"

# Каго выбіраем?

## *Нават тыя, хто прыходзіў галасаваць ня ведалі сваіх кандыдатаў...*

...Ідзе трэці дзень галасаваньня. Заходжу на ўчастак, каб зарэгістравацца ў якасьці назіральніка на 15 кастрычніка. Старшыня выбарчай камісіі пазнае мяне. Ужо колькі год запар супрацоўнічаю менавіта з гэтай камісіяй – назіраю падчас выбарчых кампаніяў. Засталася ў камісіі ранейшыя сакратарка і некалькі шараговых сяброў. Сярод новых – моладзь. Што ж, моладзь трэба вучыць. Старшыня камісіі кажа, што яму надакучыла праца ў выбарчых камісіях – і гэта апошняя ягоная кампанія.

У школе тры выбарчыя ўчасткі. Усе яны месьцяцца ў адным пакоі. На сталах стаяць тры скрыні для датэрміновага галасаваньня, ля кожнай – дзяжурны сябра камісіі. Цішыня і спакой. Ніводнага выбаршчыка.

На "маім" участку за тры дні датэрміновага галасаваньня прагаласавала толькі 18 чалавек. У асноўным з новага дому, які зусім нядаўна ўзьняўся сярод прыватнага сектару. Тут жывуць пераважна тыя, хто працуе на птушкафабрыцы. Усё зразумела. Кіраўніцтва фабрыкі абавязала сваіх працаўнікоў "выказацца" задоўга да афіцыйнага дня выбараў.

15 кастрычніка зранку іду на ўчастак. Першымі сюды прыходзяць тыя, каму нават у выходныя ня сьпіцца і няма чым заняцца. Узрост іх – добра за семдзесят гадоў. Наогул, на "маім" выбарчым участку, па словах старшыні камісіі, больш за 60 адсоткаў пенсіянераў. Гэтая катэгорыя грамадзянаў настолькі прызвычаілася хадзіць куды б ні пасылалі і дакладна выконваць любыя загады, якімі б абсурднымі яны ні былі, што і зараз прыйшлі, ня ведаючы каго і куды яны выбіраюць.

Цікава назіраць за паводзінамі людзей. Шмат хто спачатку галасуе, а потым падыходзіць да плаката з партрэтамі кандыдатаў. Ім усё роўна, за каго галасаваць. Ці, можа, я памыляюся: напэўна, яны прагаласавалі супраць усіх або перакрэсьлілі бюлетэнь? Дарэчы, у канцы дня такіх бюлетэняў акажацца за восемдзесят, што складзе больш за 6 адсоткаў ад усіх.

Зайшлі дзьве бабулі. Да таго, як падысьці да сталоў і атрымаць бюлетэні, доўга стаяць ля стэнду, разглядаюць партрэты кандыдатаў і ўголас чытаюць тэкст пад партрэтамі. Абмяркоўваюць іх партыйнасьць, узрост, зьнешні выгляд, месца працы. Пасьля, знайшоўшы "кансэнсус", ідуць да рабочых сталоў выбарчай камісіі. Старшыня камісіі хоча ім патлумачыць, як запоўніць бюлетэнь. Бабулі крыўдзяцца, яны ж не такія цёмныя і тэлевізар кожны дзень глядзяць. Выканаўшы "абавязак", не сьпяшаючы накіроўваюцца да дзьвярэй.

У памяшканьне заходзіць мая суседка. Аглядаецца па баках, вывучае біяграфіі кандыдатаў у дэпутаты. Заўважае мяне. Падыходзіць, сядае побач, каб трохі адпачыць. Гутарым пра дзяцей, унукаў. Нягучна запытваецца, за каго сёньня галасаваць, бо нікога ня ведае. Агітатары ад кандыдатаў у дэпутаты паленаваліся хадзіць па прыватным сектары і кідаць у паштовыя скрыні агітацыйныя ўлёткі. Таму людзі ў разгубленасьці, ня ведаюць, каго выбіраць... Цётка Тоня ўстае, яшчэ раз падыходзіць да агітацыйнага стэнду, старанна вывучае яго і... сыходзіць дадому.

Прыйшла жанчына без дакументаў, сакратар дазваляе ёй прыняць удзел у галасаваньні. На маю заўвагу адказвае, а што ж рабіць, калі чалавек ужо прыйшоў. Другі раз ня пойдзе, а адзін чалавек нічога ня зьменіць. Усё тая ж тэорыя "маленькага чалавека". Камісія сьцяной стаіць, каб не дапусьціць назіральнікаў да вынасных скрыняў. Нехта з сяброў камісіі скардзіцца, што не пускаюць у хаты. Брамы зачыненыя, і ў дварах брэшуць сабакі. Мо таму так мала назьбіралі бюлетэняў. Пасьля тэлефоннага званка камісія апошні раз едзе да выбаршчыка за трыццаць хвілінаў да заканчэньня выбараў.

У 20.00 участак зачыняецца. Далей старшыня камісіі дзейнічае пісьменна. Выбары на ўчастку не адбыліся, сьпяшацца няма куды. У канцы падліку вывешваецца пратакол, старшыня ставіць подпіс на маёй копіі. Разьвітваемся да наступных выбараў.

Выбары, нягледзячы на тое, што за адзін дзень з улікам дадатковага сьпісу на ўчастку колькасьць выбаршчыкаў зьменшылася на 70 чалавек, не адбыліся. Толькі 45 адсоткаў выбаршчыкаў прыйшлі выбіраць дэпутата ў лукашэнкаўскую "палату №2".

**Л.МУХІНА.**

 

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

***16 кастрыніка*** Місія па тэхнічнай ацэнцы Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) прадставіла свае папярэднія высновы па выбарах 15 кастрычніка ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасьці з рашэньнем трэцяй Тэхнічнай канферэнцыі, якая адбылася 30 жніўня ў Вене, БДІПЧ прыняло рашэньне накіраваць на выбары ў Беларусь толькі Місіию па тэхнічнай ацэнцы. У сувязі з тым, што палажэньні пра папярэдняе галасаваньне, пераносныя скрыні для галасаваньня, правілы падліку і абагульненьня вынікаў галасаваньня далёка не адпавядалі мінімальным патрабаваньням адкрытасьці, неабходным для ажыцьцяўленьня незалежнай праверкі, БДІПЧ (АБСЕ) адмовілася накіраваць сваіх назіральнікаў у дзень выбараў.

Іншымі прычынамі, якія тлумачаць неадпаведнасьць гэтых выбараў мінімальным міжнародным патрабаваньням, зьўляюцца:

Заканадаўства аб выбарах, прынятае непачатку 2000 г., будучы палепшаным наступнымі зьменамі і дадаткамі, унесенымі ў чэрвені, усё роўна ўтрымлівае істотныя і значныя недахопы.

Тым ня менш, усебаковае выкарыстаньне выбарчага заканадаўства магло б забясьпечыць дэмакратычнасьць працэсу выбараў, але гэтаму перашкодзілі наступныя фактары:

1.Ажыцьцяўленьне выканаўчай уладай кантролю за работай выбарчых камісіяў.

2. Злоўжываньне працэдурай рэгістрацыі кандыдатаў дазволіла выключыць непажаданых прэтэндэнтаў з прадвыбарчай барацьбы, што абмежавала свабоду выбару выбаршчыкаў.

3.Ажыцьцяўленьне жорсткага рэгуляваньня перадвыбарчай кампаніі кандыдатаў, што абмежавала магчымасьць яе правядзеньня".

***19 кастрычніка*** каля станцыі метро "Плошча Якуба Коласа" былі затрыманыя ***Уладзімір Кішкурна*** і ***Андрэй Сінякоў.*** Нарад міліцыі выклікаў супрацоўнік міліцыі ў цывільным. Міліцыянеры сталі патрабаваць, каб У. Кішкурна спыніў раздачу газетаў, У.Кішкурна адказаў: "Раздаваў і буду раздаваць". Пасьля гэтага ў адносінах да У.Кішкурны была ўжытая фізічная сіла. У.Кішкурну і А.Сінякова даставілі ў РУУС Савецкага раёну г.Мінску. Разам з імі паехаў назіральнік ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч. У Савецкім РУУС маёр загадаў складаць на У.Кішкурну пратакол па арт. 156 КаАП (дробнае хуліганства), бо старшына, які праводзіў затрыманьне, засьведчыў, што У.Кішкурна лаяўся матам. У гэты час В.Стэфановіч размаўляў з супрацоўнікамі міліцыі. На пытаньне В.Стэфановіча: "Па якім артыкуле вы зьбіраецеся іх афармляць? Газета "Наша Свабода" — афіцыйна зарэгістраваная". Капітан міліцыі са сьмехам адказаў: "Назойливое приставание к гражданам с целью раздачи газет"... Уладзімір Кішкурна абвінавачаны ў дробным хуліганстве, у хуткім часе атрымае позву ў суд.




***14 кастрыніка*** *ў цэнтры Стакгольму (плошча Нормалсмторг) удзельнікі швецкіх няўрадавых арганізацыяў наладзілі пікет супраць апошняга ў Еўропе дыктатарскага рэжыму – рэжыму Лукашэнкі. У пікеце прымалі ўдзел каля 40 чалавек, сярод іх Урбан Ахлін (сацыял-дэмакрат, сябра Швецкага парламенту). Марыя Эрмана (арганізацыя "За мір і арбітраж") распавяла пра свой удзел у "Маршы Свабоды-3" 1 кастрычніка ў Мінску, падзялілася асабістымі ўражаньнямі. Ленард Родзін (Швецкі цэнтр лібералізму) правёў аналогію паміж Беларусьсю і Югаславіяй.*

***21 кастрычніка*** ў судзе г.Орша скончыўся трохдзённы разгляд адміністратыўных матэрыялаў ***Віктара Андрэева*** і ***Юрыя Санько***, якія абвінавачваліся па арт. 167.1 ч.2 КаАП РБ (арганізацыя ці актыўны ўдзел у несанкцыянаваным шэсьці, мітынгу, пікетаваньні). Гэтае абвінавачаньне было прад'яўленае В.Андрэеву і Ю.Санько за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу 8 кастрычніка. Пасьля заканчэньня мітынгу ніхто ня быў затрыманы, але 9 кастрычніка дахаты да В.Андрэева і Ю.Санько прынесьлі позвы ў аддзяленьне міліцыі, і калі яны туды зьявіліся, на іх былі складзеныя пратаколы адміністратыўнага правапарушэньня як на арганізатараў несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Праз некаторы час зноў жа дахаты былі прынесеныя позвы ў суд, які распачаўся 18 кастрычніка. Справа разглядалася на працягу трох дзён, і ў выніку судзьдзя Дзямешчанка Алена Аляксандраўна прызнала В.Андрэева і Ю.Санько вінаватымі ў зьдзяйсьненьні адміністратыўнага правапарушэньня і прысудзіла кожнаму штраф у памеры 150 мінімальных заробкаў (каля 550 даляраў ЗША).

***21 кастрычніка*** ў Баранавіцкае аддзяленьне ПЦ "Вясна" патэлефанавала жанчына,якая пажадала застацца невядомай, і паведаміла, што старшыня гарвыканкаму В.Дзічкоўскі праз два дні пасьля выбараў выклікаў у гарвыканкам дырэктараў і завучаў школаў і ўчыніў ім сапраўдны разнос за тое, што выбары ў Баранавічах не адбыліся. Пасьля прыгразіў, што па сьпісах прагаласаваўшых праверыць, ці галасавалі самі настаўнікі і кіраўніцтва. На прадпрыемствах і ва ўстановах праводзіцца анкетаваньне людзей, якія мусяць адказаць на пытаньні, ці бралі ўдзел яны ў выбарах, чаго чакалі ідучы на выбарчыя ўчасткі, на што спадзяваліся, ці калі ня ўдзельнічалі, дык чаму.




***20 кастрычніка*** *скончыўся суд над жонкай былога прэм'ер-міністра Беларусі М.Чыгіра Юліяй Чыгір, якая абвінавачвалася ў аказаньні супраціўленьня супрацоўніку міліцыі 19 траўня гг., у дзень вынясеньня прысуду яе мужу. Судзьдзя вынес прысуд: два гады турмы з адтэрміноўкай на адзін год... Такім чынам, у Беларусі і сям'і Чыгіроў стала на аднаго палітвязьня больш. "ПнВ" вернецца да гэтай справы асобна. А пакуль мы друкуем здымак Ю.Чыгір, зроблены пасьля яе "кантактаў" з міліцыяй 19 траўня гг.*

***21 кастрычніка*** ў Віцебску адбыўся пікет, прысьвечаны вынікам першага туру выбараў. Акцыя адбылася ў цэнтры Віцебску каля помніка паэтцы Еўдакіі Лось, у ёй удзельнічала каля 30 чалавек, пераважна моладзь. Пасьля заканчэньня пікету міліцыянты затрымалі найбольш актыўных удзельнікаў яго. Былі арыштаваныя: ***Сяргей Васенка, Сяргей Гродзь, Юрый Мельнікаў, Уладзімір Патоцкі, Сяргей Шапіра, Андрэй Саўчанка, Сяргей Аксімовіч, Яніс Чучман, Марат Волкаў, Аляксей Аляксеенка. Аляксандр Прахарэнка***, які нёс бел-чырвонабелы сьцяг пасьля пікету, быў дастаўлены ва Управу МУС Віцебскага аблвыканкаму. Астатнія затрыманыя былі дастаўленыя ў РАУС Чыгуначнага раёну г.Віцебску, дзе на іх былі складзеныя пратаколы па арт. 167. ч.1(арганізацыя несанкцыянаванага пікету).

***22 кастрычніка*** ў Мінску каля станцыі метро "Усход" быў затрыманы ***Андрэй Чырэц***, які раздаваў сьпецвыпуск газеты "Наша Свабода". Яго затрыманьню спрыяла пільная бабуля, якая, узяўшы сьпецвыпуск газеты, выклікала міліцыю. Андрэй Чырэц атрымаў пісьмовае "запрашэньне", выпісанае на звычайнай паперцы (афіцыйным дакументам не зьяўляецца) у РУУС Першамайскага раёну на 23 кастрычніка. У гэты дзень супрацоўнікі Першамайскага РУУСу вырашылі накіраваць газеты "Наша Свабода" (каля 1000 асобнікаў) на эксьпертызу ў Першамайскую пракуратуру. Быў складзены пратакол выняцьця.

***26 кастрычніка*** Мінскі гарвыканкам забараніў Беларускаму Хельсінкскаму Камітэту правядзеньне шэсьця ў гонар памяці пра ахвяры нацызму і змагароў супраціўленьня. 26 кастрычніка 1941 г. у Мінску нацысты пакаралі сьмерцю 12 актыўных удзельнікаў супраціўленьня. Гэта было першае масавае пакараньне, накіраванае на запалохваньне насельніцтва. У той дзень тры чалавекі былі павешаныя ля прахадной фабрыкі "Чырвоная зара". 11 кастрычніка БХК падаў у Мінскі гарвыканкам заяўку на правядзеньне шэсьця па маршруце, якім вялі ахвяраў – ад СІЗА па вул.Валадарскага да прахадной фабрыкі (цяпер Мінскі дрожджавы камбінат) і мітынгу-рэквіему на месцы пакараньня. Мінскі гарвыканкам дазволіў толькі мітынг каля прахадной камбінату.

# "Рэальнасьць пераўзышла самыя змрочныя чаканьні"

## 25 кастрычніка Міхаіл Чыгір зрабіў заяву пра зьняцьце сваёй кандыдатуры з другога туру выбараў у Палату прадстаўнікоў у сувязі з грубай фальсіфікацыяй вынікаў першага туру.

Міхаіл Чыгір заявіў, што не намераны больш змагацца за дэпутацкі мандат у сувязі з масавымі фальсіфікацыямі, дапушчанымі падчас першага туру выбараў. Ён падкрэсьліў, што з самага пачатку быў гатовы да таго, што ўлады будуць выкарыстоўваць брудныя тэхналогіі для барацьбы з палітычнымі апанентамі, але рэальнасьць пераўзышла ягоныя самыя змрочныя чаканьні.

З першых дзён выбарчай кампаніі кандыдыту ад улады ў акрузе, дзе быў зарэгістраваны М.Чыгір, прадстаўлялася значна болей эфірнага часу, яму без перашкодаў дазвалялі весьці агітацыю ў працоўных калектывах і дзяржаўных установах, у той час як пры поўным патураньні выбарчых камісіяў па акрузе распаўсюджваліся шматтысячнымі накладамі антычыгіроўскія ўлёткі і ганебныя плёткі і чуткі пра самога Міхаіла Мікалаевіча і ягоную сям'ю.

У сваёй заяве экс-прэм'ер адзначыў, што выбаркамы ўсіх узроўняў прадэманстравалі ігнараваньне Выбарчага заканадаўства: гэта і масавыя выпадкі, калі прымушалі галасаваць датэрмінова ў загадным парадку, і выпадкі, калі выкарыстоўваліся вынасныя скрыні для галасаваньня, калі ўчастковыя камісіі перашкаджалі нармальнай працы назіральнікаў. Толькі праз тыдзень пасьля галасаваньня кандыдат у дэпутаты змог даведацца афіцыйныя вынікі першага туру ў сваёй 102 Заходняй выбарчай акрузе, што і падштурхнула яго заявіць пра грубыя фальсіфікацыі вынікаў выбараў. М.Чыгір заявіў, што ён мае копіі выніковых пратаколаў усіх 33 участковых камісіяў, што дае яму падставу сьцьвярджаць, што выбары ў ягонай акрузе не адбыліся, бо ў іх прынялі ўдзел толькі 47 адсоткаў ад колькасьці выбаршчыкаў. Але, нягледзячы на тое, што нельга ўносіць зьмены ў сьпісы пасьля падліку галасоў, улады на працягу некалькіх дзён скарацілі колькасьць выбаршчыкаў у 102 акрузе амаль на 6 тысяч чалавек.

М.Чыгір заявіў, што лічыць немагчымым замоўчваць сапраўдныя вынікі першага туру выбараў па ягонай акрузе, таму здымае сваю кандыдытуру з другога туру выбараў.

Міхаіл Мікалаевіч падзякаваў усім, хто аддаў свае галасы за ягоную кандыдатуру і заклікаў адмовіцца ад удзелу ў санкцыянаваным уладамі парушэньні закону, а таксама выказаў надзею, што ягоны ўчынак падтрымае і "верная запаветам бацькі Н.П. Машэрава", якая таксама выйшла ў другі тур выбараў па гэтай акрузе.

# Закон прыняты ў чэрвені, але дагэтуль не ўступіў у сілу

## Працягваецца разгляд судовых справаў супраць удзельнікаў байкоту выбараў, бо закон, паводле якога адказнасьць за гэта не прадугледжваецца, улады наўмысна не друкуюць

17 кастрычніка ў судзе Фрунзенскага раёну г.Мінску адбыліся судовыя пасяджэньні па адміністратыўных справах Натальлі Емяльянавай, Лявона Садоўскага і Андрэя Церашкова, затрыманых за заклікі да байкоту выбараў 15 кастрычніка.

Перад пачаткам працэсу грамадзкі абаронца ПЦ "Вясна" Барыс Гюнтэр прадставіў судзьдзі Карнову Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь", які быў прыняты Палатай прадстаўнікоў 22 чэрвеня 2000 г. і зацьверджаны Саветам Рэспублікі 30 чэрвеня 2000 году. Гэтым Законам унесеныя зьмены ў некаторыя нарматыўныя акты, у тым ліку і арт. 167.3 КаАП выкладзены ў новай рэдакцыі, дзе адказнасьць за байкот не прадугледжваецца. Закон павінен быў уступіць ў сілу праз месяц з моманту надрукаваньня (так сказана ў арт. 7 дадзенага Закону). Але пра факт публікацыі ніякай інфармацыі не было. 15 кастрычніка Міністэрства замежных справаў РБ распаўсюдзіла Закон сярод прадстаўнікоў замежных амбасадаў і місіі АБСЕ. Напярэдадні суда (16 кастрычніка) у праграме "Падзея" Беларускага тэлебачаньня міністр замежных справаў Урал Латыпаў сказаў, што ў Адміністратыўны Кодэкс унесеныя зьмены, і адказнасьці за байкот няма. Судзьдзя суда Фрунзенскага раёну глядзеў перадачу "Падзея" і, атрымаўшы на рукі Закон, пайшоў тэлефанаваць у Міністэрства юстыцыі, дзе яму адказалі, што Закон яшчэ не дзейнічае: "Магчыма яго надрукуюць на днях, і толькі праз месяц ён уступіць у законную сілу".

Судзьдзя спыніў вытворчасьць па справе ўсіх трох абвінавачваемных за нязначнасьцю і абмежаваўся вуснай заўвагай.

Адзначаым яшчэ раз тую акалічнасьць, што Закон, прыняты ў чэрвені, дагэтуль не ўступіў у сілу. Гэта наводзіць на думку, што ўлады наўмысна не друкавалі яго, каб была магчымасьць узьдзейнічаць на ўдзельнікаў байкоту, а прыняты Закон быў для міжнародных назіральнікаў.

# ПРАВЫ ГРАМАДЗЯНАЎ АСОБНАЙ КРАІНЫ НЕ ЗЬЯЎЛЯЮЦЦА ЎНУТРАНЫМ ПЫТАНЬНЕМ…

***З 29 верасьня па 1 кастрычніка пад Мінскам праходзіў семінар, наладжаны ПЦ "Вясна" сумесна са швецкімі партнёрамі — арганізацыяй за мір і арбітраж Svenska Freds. На семінар быў таксама асабіста запрошаны Роберт Хорд – юрыст і генеральны сакратар Швецкага Хельсінкскага камітэту. З Робертам Хордам супрацоўнікі "Вясны" пазнаёміліся яшчэ ў траўні мінулага году падчас канферэнцыі ў Стакгольме, прысьвечанай Беларусі. Наступная сустрэча адбылася ў офісе швецкага аддзяленьня "Amnesty international", затым – ужо ў Мінску, калі Роберт Хорд наведаў нашую краіну. Падчас сустрэчаў замацавалася двухбаковае жаданьне працягваць далейшыя кантакты і супрацоўнічаць, і першы крок у гэтым накірунку – выступленьне Роберта Хорда на семінары па прапанове беларускіх праваабаронцаў. Карэспандэнт "Права на волю" папрасіла Роберта ХОРДА адказаць на некалькі пытаньняў.***



Роберт ХОРД

***— Спадар Роберт, распавядзіце, калі ласка, крыху пра сябе. Калі вы зацікавіліся праваабарончай дзейнасьцю?***

— Мне 31 год. У Хельсінскім камітэце я стаў працаваць у пачатку 1999 году, раней быў сябрам Рады швецкага аддзяленьня "Amnesty international". Мяне цікавіла праблема абароны правоў чалавека яшчэ калі я быў студэнтам юрыдычнага факультэту універсітэту. Я ўжо тады зьяўляўся старшынёй групы юрыстаў "Amnesty international". Мне хацелася выкарыстоўваць свае юрыдычныя веды дзеля гэтай карыснай справы, напрыклад, дапамагаць людзям, якія ня маюць такіх магчымасьцяў, якія маю я. Мая экзаменацыйная праца была прысьвечаная правам дзяцей Паўднёвай Афрыкі на пачатковую адукацыю.

***— Швецыя, як вядома, дэмакратычная дзяржава, і ў вас адсутнічаюць масавыя парушэньні правоў чалавека. Над чым працуюць швецкія праваабарончыя арганізацыі?***

— Вельмі рэдка швецкія праваабарончыя арганізацыі займаюцца праблемамі Швецыі. Калі ўзяць "Amnesty international", то галоўны яе прынцып — не працаваць у сваёй краіне, і калі крытыкуецца сітуацыя ў нашай дзяржаве, дык гэта робіць, напрыклад, Лонданскае аддзяленьне Amnesty. Арганізацыі "Выратуйце дзяцей" і "Чырвоны Крыж" таксама ў першую чаргу зьвяртаюць увагу на сітуацыю ў краінах, якія маюць праблемаў болей, чым у Швецыі.

Хельсінкскі камітэт працуе перш за ўсё ў краінах, якія падпісалі Хельсінкскую дамову: гэта Канада, ЗША і ўсе еўрапейскія краіны. У гэтай дамове падкрэсьліваюцца правы кожнага чалавека і асабліва тое, што правы грамадзянаў асобнай краіны не зьяўляюцца ўнутраным пытаньнем дадзенай краіны, а праблемай, якая тычыцца ўсіх без выключэньня людзей. І каб пракантраляваць захаваньне гэтых правоў у краінах, якія падпісалі дамову, былі створаныя нацыянальныя Хельсінкскія камітэты, якіх на сёньняшні дзень ужо 39. Швецкі Хельсінкскі камітэт бачыць сваю самую важную задачу на дадзеным этапе ў дапамозе незалежным сродкам масавай інфармацыі ў былой Югаславіі.

***— І ўсё ж, якія праблемы існуюць у самой Швецыі?***

— Адна з праблемаў, з якой прыходзіцца сутыкацца ў працы Швецкаму Хельсінкскаму камітэту – гэта дастаткова акрэсленая варожасьць у адносінах да эмігрантаў і экстрэмісцкія настроі пэўных груповак, якія выкарыстоўваюць гвалт у адносінах да гэтай групы насельніцтва краіны. Гэта і праблема адносінаў швецкага ўраду да бежанцаў, выпадкі дыскрымінацыі па колеру скуры.

***— Чым займаецеся асабіста вы?***

— Я амаль ніколі не працую з асобнымі выпадкамі. Але даволі часта бывае так, што пачынаеш разумець існаваньне вялікай праблемы, калі пазнаёмішся з асобным выпадкам. Апошнім часам больш за ўсё я займаўся законапраектам, які зьбіраўся прыняць швецкі ўрад. Сутнасьць гэтага праекту заключаецца ў пашырэньні правоў швецкай міліцыі і сьпецслужбаў у выкарыстаньні тайных метадаў назіраньня за людзьмі. Мы ўважліва вывучалі аснову гэтага законапраекту і тое, як на практыцы выкарыстоўваюцца гэтыя метады. Па выніках нашага дасьледваньня мы змаглі вельмі рэзка пракрытыкаваць швецкі ўрад, паказаўшы, што ўлады больш зьвярталі ўвагу на новыя тэхнічныя магчымасьці, а не на правы чалавека, што недапушчальна ў прававой дзяржаве. Гэты рапарт быў першым такога плану ў Швецыі. Ніякая іншая праваабарончая арганізацыя ня робіць такой працы.

***— Калі Беларусь трапіла ў сферу вашых інтарэсаў?***

— З першых часоў працы ў Хельсінкскім камітэце я зьвярнуў увагу на Беларусь. Тады ўжо існаваў праект з Беларускім Хельсінкскім камітэтам, і я толькі пераняў яго. Мы даволі рана зразумелі, што ў Беларусі вялікія праблемы, а вашая краіна знаходзіцца зусім недалёка ад Швецыі. Першы раз мне давялося пераканацца ў наяўнасьці праблемаў у Беларусі, калі я прыехаў на семінар, які ладзіў БХК у мінулым годзе. Падчас гэтага семінару на вуліцах Мінску праходзіў вялікі мітынг, які, як звычайна скончыўся тым, што было арыштавана шмат людзей, а на наш семінар прыйшлі людзі з КДБ. Калі я стаў сьведкам візіту гэтых людзей у скураных куртках, мне стала зразумела, што вашая краіна знаходзіцца ў крызіснай сітуацыі.

***— Што вы адчулі, калі на семінар прыйшлі супрацоўнікі сьпецслужбаў?***

— Што тычыцца маіх пачуцьцяў, якія ўзьніклі падчас гэтага візіту, то магу сказаць, што я вельмі быў раззлаваны, бо гэта да такой ступені адрозніваецца ад таго, да чаго прызвычаіўся ў сваёй краіне.

***— На ваш погляд, у чым заключаюцца асноўныя парушэньні правоў чалавека ў Беларусі?***

— Мне цяжка рабіць высновы, але, на мой погляд, у Беларусі найчасьцей парушаюцца правы чалавека ў агульным маштабе. Перш за ўсё я маю на ўвазе нелегітымнае кіраваньне дзяржавай.

***— Ці зьбіраецеся вы надалей супрацоўнічаць з беларускімі праваабарончымі арганізацыямі?***

— Швецкі Хельсінкскі камітэт мае намер супрацоўнічаць ня толькі з Хельсінкскімі камітэтамі, але і з іншымі арганізацыямі, якія актыўна займаюцца абаронай правоў чалавека, як, напрыклад, ПЦ "Вясна". Для нас важна ня тое, якую назву мае арганізацыя, а тое, якім чынам можна дасягнуць пастаўленай мэты. Я бачу шмат варыянтаў нашага супрацоўніцтва, але што тычыцца асабіста мяне, то як юрыста мяне цікавяць юрыдычныя аспекты існуючых праблемаў. Я б, напрыклад, хацеў правесьці назіраньне судовага працэсу, які мае палітычны характар.

***— Якія ўражаньні ў вас ад Беларусі?***

— Гэта прыгожая краіна, але адчуваецца, што яна шмат пакутавала, што яна выйшла з аднаго цяжкага перыяду і трапіла ў другі. Тут вельмі добрыя людзі. Амаль увесь час, які я знаходжуся ў Беларусі, бачу толькі Мінск, а хацелася б пазнаёміцца з іншымі мясьцінамі, аж да глухой вёскі.

**Гутарыла Тацяна РЭВЯКА.**

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*